© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 25 (185) 22 чэрвеня 1994 г. Кошт — 100 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**ЗАЎТРА АДБУДУЦЦА ВЫБАРЫ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

**У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ ПРАЕКТ «АБ ФАРМІРАВАННІ ЕЎРАЗІЙСКАГА САЮЗА ДЗЯРЖАЎ», які прапануе ажыццявіць прэзідэнт Казахстана Н. Назарбаеў краінам, якія ўваходзяць у СНД. Відаць, і Н. Назарбаеву не церпіцца трапіць у гісторыю стварэння новай імперыі.**

**ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ І ВЫКАНАЎЧЫ САКРАТАР СНД ІВАН КАРАТЧЭНЯ ПАДПІСАЛІ Ў МЕНСКУ Пагадненне паміж Рэспублікай Беларусь і СНД аб умовах знаходжання Выканаўчага сакратарыята СНД на тэрыторыі Беларусі.**

**У КІЁСКАХ «БЕЛСАЮЗДРУКУ» З'ЯВІЎСЯ ПЕРШЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ». Выданне захавала не толькі назву былой радыёстанцыі, але і канцэпцыю работы ў эфіры. У першым нумары газеты шмат цікавых матэрыялаў: інтэрв'ю В. Сямашкі з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком, урыўкі з кнігі Людмілы і Аляксандра Класкоўскіх пра С. Шушкевіча і іншыя. Праўда, у «Беларускай маладзёжнай» хапае рускамоўных матэрыялаў. Няўжо у нас з'явілася яшчэ адна двухмоўная газета?**

**У САЛЕЧНІКАХ — цэнтры літоўскага раёна, які мяжуе з Беларуссю і дзе жыве шмат нашых суайчыннікаў, адбылося адкрыццё Беларускага культурнага цэнтра.**

**У МЕНСКУ ПРАЙШЛА МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, прысвечаная праблемам культуры беларускага замежжа. У ёй удзельнічалі грамадзяне Беларусі, ЗША, Польшчы, Англіі, Бельгіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і іншых дзяржаў.**

**АСВЯТЛЯЦЬ ХОД ПРАВЯДЗЕННЯ ВЫБАРАЎ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ будуць не толькі журналісты нашай краіны, але і іх замежныя калегі. Толькі з адной Расіі чакаецца больш за 50 чалавек.**

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## *Таварыству беларускай мовы — 5 гадоў*

Дарагія сябры, патрыёты і абаронцы роднага слова! У святочны для ўсіх нас дзень угодкаў Таварыства разам з вітаннем і віншаваннем прыміце мой паклон удзячнасці за ўсё, што вы зрабілі і робіце, каб наша слова мацнела, дужэла і шырылася там, дзе яно яшчэ гучыць нясмела і рэдка, каб яно, у поўнай адпаведнасці з Законам аб мовах і Канстытуцыяй Беларусі, хутчэй узднялася на дзяржаўны ўзровень і набывала дзяржаўны гарт, каб яно ўсё больш апаноўвала тымі душамі, да якіх раней дайсці не паспела, як і тымі, дзе калісьці жыло, ды было вытраўлена гвалтоўна. Я хачу выказаць пачуццё радасці і гордасці за вас, сапраўдных сыноў і дачок Бацькаўшчыны, каму роднае слова ў сённяшнім смутным часе свеціць, як сонца ў тумане, каго не здолелі збіць з дарогі хлуснёй і паклёпамі на нашу мову адкрытыя і замаскаваныя ворагі беларушчыны, хто высока ў душы нясе пачуццё чалавечай і нацыянальнай годнасці, сваю выпакутаваную веру ў шчаслівую будучыню свабоднай і незалежнай Беларусі.

Грамадзянам краіны, якім ў свой час не дапамаглі або перашкодзілі стаць патрыётамі мовы нашай зямлі, я хачу ў гэты дзень сказаць: зрабіце тое, што вы, не па сваёй віне, не змаглі зрабіць раней: адкрыйце для сябе чароўную красу і сілу беларускага слова, унікніце розумам у невымерныя глыбіні яго сэнсу, услухайцеся душой і сэрцам у дзівосную музыку ягоных гукаў, заслужыце правы ўвайсці ў яго высозны векавечны храм, адчуйце радасць далучэння да яго чараў, спазнайце шчасце стаць яго падданым, яго вечным і верным слугою! Зрабіце гэта — і Бог палюбіць Вас!

Ну, а тым, хто зласліва і цынічна здзекуецца з гэтае нашай найсвятое святыні, хто свядома і ваяўніча адмаўляе нашаму Слову ў праве на свабоднае жыццё, хто ўзяў на сябе ганебную ролю яго турэмшчыка, забойцы і далакопа, — ім у гэты дзень нашага свята я не скажу нічога. Я моўчкі прайду міма, прайду з пачуццём пагарды, але і са спачуваннем, што Бог так пакрыўдзіў іх — так бязлітасна абышоў сваёй любоўю.

Жыве беларуская мова — жыве Беларусь!

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

### ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

***Адной з сваіх галоўных задач Таварыства лічыць адраджэнне ў духоўным жыцці народа беларускай мовы і праз яе ўсёй нацыянальнай культуры і выступае за аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы, як да бацькоўскага дару і матчынай святыні. Дзеля дасягнення гэтай мэты намаганнямі руплівцаў за нацыянальнае адраджэнне і, у першую чаргу, прадстаўнікоў інтэлігенцыі — супрацоўнікаў установаў культуры, навукі, народнай адукацыі і другіх сацыяльных сфер нашай дзяржавы, утвораны абласныя, гарадскія, рэгіянальныя і раённыя арганізацыі ТБМ.***

***У сучасны момант на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь дзейнічаюць: 2 абласныя (Гродзенская і Магілёўская), 20 гарадскіх, 94 раённыя і рэгіянальныя арганізацыі, звыш 40 другіх самадзейных аб'яднанняў (калектыўныя сябрыны, клубы і інш.).***

*Але!* *Але!*

## *«Чудны дела твои...»*

Гэты загаловак адразу кінуўся ў вочы ў чарговым нумары (23) газеты «Фемида». Нехта «ничтоже сумняшеся» скарыстаў выдомы выраз з Бібліі для ўласнага опуса. Аказваецца — А. Патупа. Ну, для «Фемиды» ягонае прозвішча прывычнае — які нумар ні возьмеш, там абавязкова ці нехта А. Патупу хваліць, ці ён сам сябе рэкламуе. «А шо?», як казалі ў Адэсе, ён жа практычна гаспадар той «Фемиды» — і заснавальнік, і на сваёй паліграфічнай базе выдае, ды, мяркуем, і пра ганарары-зарплаты супрацоўнікаў клапоціцца, то чаму б сабе тоесёе прыемнае не дазволіць. Праўда, па ўсяму відаць,гэта не вельмі падабаецца другому сузаснавальніку газеты — Саюзу юрыстаў, аўтарытэт якога практычна і падтрымлівае неяк імідж «Фемиды», бо чытачы спадзяюцца, што нарэшце ў газеце перастануць займацца разбурэннем суверэнітэту Беларусі ды прапагандай «двуязычия», а пачнуць без палітыканства дапамагаць людзям авалодваць хаця б азамі права ды аказваць нейкую юрыдычную дапамогу насельніцтву. Аднак, відаць, да гэтага далёка. Ва ўсякім разе цяжка нечым іншым растлумачыць нежаданне юрыстаў актыўна супрацоўнічаць з газетай, што прызнаюць самі рэдактары. Ды і Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыславу Грыбу з чаго б раптам публічна адзначаць, што «занадта многа месца ў газеце адводзіцца матэрыялам, якія не маюць дачынення да юрыспрудэнцыі».

Рэдакцыя «Фемиды» пакрыўдзілася, аб чым і напісала. А. Патупа, аказваецца, таксама сачыніў свой артыкул па прычыне крыўды на... Назіральны савет пры Цэнтрвыбаркаме, бо той парэкамендаваў устрымацца за два тыдні да выбараў ад публікацый «розных сацыялагічных замераў і даследванняў, прагнозаў». Такая рэкамендацыя пазначана пунктам «5», і А.Патупа надае свайму артыкулу (ці гэта своеасаблівы «жарт» рэдакцыі?) нешта накшталт рубрыкі: «Поаккуратней бы с 5-й графой». Не заўважыўшы, што такім чынам адразу надае свайму публіцыстычнаму шэдэўру анекдатычны шарм.

А не заўважыў, мяркуем, таму, што не вельмі ў ладах з той мовай, на якую так прагне перакапыліць «адсталых» беларусаў. І вось руская мова пачала з нашага капіталіста — «пісацеля» жартаваць. Прыкладам, А.Патупа сцвярджае: ён пакрыўджаны за сацыёлагаў (а, відаць, у гэты момант аўтар ужо і сам сябе лічыць сацыёлагам), бо ў сапраўднасці яны свае «замеры» падаюць аб'ектыўна, служачы адно праўдзе і больш нікому. Хоць і бедныя, але не купленыя. А следам тырада:«Хочу ясно(?) сказать, — піша абаронца сацыёлагаў,— что в наших условиях «5-я графа» упомянутых рекомендаций более чем сомнительна. Особенно в рекомендательной форме(?), когда нет никаких гарантий, что кто-то из ваших оппонентов собирается ее соблюдать». Выходзіць, у «оппонентов» могуць-такі быць «замершчыкі» з уласным, «партыйным» аршынам? Такая логіка.

Гэтак ж і граматыка. Такое ўражанне, што наш аўтар вельмі цьмяна ўяўляе сабе сінтаксіс рускай літаратурнай мовы і нават не чуў пра сінтагматыку.

А вось лексіка: «очень недурственный научно-методический уровень»,«господа хорошие», «извольте», «впредь до принесения оным советом необходимых извинений» і г. д. Гэта стыль нармальнай і прыгожай рускай літаратурнай мовы ці графаманскія практыкаванні семінарыста-пачаткоўца канца 19-га стагоддзя, у якога падобнае перанята?

Аўтар не раз падкрэсліваў, што грэбуе беларускай мовай, але ж і рускай навучыўся хутчэй не ў народа, а па нейкіх тэкстах. А гэта шлях для развіцця моўнай культуры тупіковы.

Адно ўсё ж асабліва ўражвае: як спрытна аўтары падобных опусаў умудраюцца кусануць тых, хто абараняе годнасць беларусаў! Вось і А.Патупа: мала таго, што знайшоў спосаб пакпіць з ненавіснага яму БНФ, але і абліў брудам Васіля Быкава. Брыдка гэта ўсё, «господин хороший»!

**Ул. АСІНАЎСКІ.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013




**ТБМ — 5 ГАДОЎ!**

# ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ

*(Інтэрв'ю з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь, намеснікам старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны сп. Яўгенам Цумаравым)*

**— Яўген Аляксандравіч, Вы адзін з пачынальнікаў рэспубліканскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Скажыце, а як узнікла ідэя яе стварэння?**

— Прыкладна з 1986г. актывізаваўся рух за адраджэнне беларускай культуры і за вяртанне роднай мовы ў грамадскае жыццё. Мы памятаем, як ствараўся Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Многія актывісты ТБМ тады істотна спрычыніліся да яго арганізацыі, паколькі ў Народным фронце яны ўбачылі масавы рух за дзяржаўнае і нацыянальна-культурнае адраджэнне Бацькаўшчыны. ТБМ і БНФ розняцца тактычнымі прыёмамі, так бы мовіць, «вядзення бою», але не стратэгіяй сваёй грамадскай дзейнасці, паколькі справа тычыцца нацыянальнага адраджэння. Нагадаю, што пэўны час пры Беларускім фондзе культуры працавала так званая Моўная камісія, якая спрычынілася да ўзнікнення як ТБМ, так і БНФ, упершыню згуртаваўшы адраджэнцаў на глебе нацыянальнай (моўнай) ідэі. У камісію ўваходзілі будучыя лідэры і актывісты гэтых патрыятычных арганізацый. Кіраваў ёю навуковец Пётр Садоўскі. Была створана грунтоўная праграма адраджэння беларускай мовы. Намнога пазней яна была апублікавана ў ЛіМе, стаўшы, такім чынам, гістарычным дакументам. Ідэя стварэння ўплывовай рэспубліканскай арганізацыі, якая служыла б справе адраджэння беларускай мовы і культуры, узнікла ў групы актывістаў, што займаліся арганізацыяй беларускіх класаў у гарадах рэспублікі (Менск, Полацк, Наваполацк, Маладзечна, Ліда і інш.). За падтрымкай носьбіты ідэі звярнуліся ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, першым сакратаром якога на той час быў Ніл Сымонавіч Гілевіч. Ён горача падтрымаў ідэю і гарантаваў яе падтрымку з боку рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі, аднак прапанаваў аб'яднацца не пад назвай «Таварыства беларускай школы» ці «Таварыства беларускай асветы», як было задумана актывістамі, а пад назвай «Таварыства беларускай мовы», надаўшы яму імя першадрукара Ф.Скарыны. І вось намаганнямі шырокай грамадскасці пры ўдзеле Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Дзяржтэлерадыё, якім тады кіраваў паэт Генадзь Бураўкін, Інстытутаў мовазнаўства і літаратуры АН БССР, работнікаў вышэйшай і сярэдняй школы, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, вядучых сродкаў масавай інфармацыі быў створаны Арганізацыйны камітэт. Яго ўзначаліў Ніл Гілевіч. Я працаваў у рабочай групе па напісанні статута Таварыства. Мы вывучылі папярэдне статут Таварыства беларускай школы, якое існавала ў Заходняй Беларусі, аналагічныя статуты падобных арганізацый у суседніх краінах, і ўрэшце напісалі свой, арыгінальны статут, які прайшоў выпрабаванне часам. Летам 1989 г. прайшоў Устаноўчы з'езд. Адбыўся ён 27 чэрвеня, дарэчы, амаль адначасна з Устаноўчым з'ездам БНФ «Адраджэнне».

**— Першы з'езд Таварыства стаў прыкметнай падзеяй у нацыянальна-культурным жыцці Беларусі. Дзякуючы чаму, як Вы лічыце?**

— Па-першае, таму, што беларускае грамадства адчувала пільную патрэбу ў такой арганізацыі. А па-другое, адразу распачалася вельмі дзейсная праца па ажыццяўленні ідэі беларускага Адраджэння. Першы з'езд не толькі абвясціў аб стварэнні ТБМ ды зацвердзіў назву таварыства, ягоны статут, ім была абрана прадстаўнічая і, я б сказаў, вельмі дзеяздольная рада, якую ўзначаліў Ніл Гілевіч. Намеснікамі былі абраны Пётр Садоўскі, Аляксандр Падлужны і ваш пакорны слуга. У склад рады ўвайшлі Радзім Гарэцкі, Барыс Сачанка, Генадзь Бураўкін, міністры адукацыі і культуры, прадстаўнікі ад арганізацый-заснавальнікаў Таварыства і, безумоўна, людзі, якія ў свой час актыўна працавалі на ніве адраджэння беларускага слова — мастакі, пісьменнікі, настаўнікі і інш. Таварыства набыло статус юрыдычнай асобы пасля рэгістрацыі Прэзідыумам Вярхоўнага Савета 28 верасня 1989 г. За адно лета і на працягу жнівеньскіх педагагічных нарад удалося фактычна закласці падмурак рэгіянальных структур ТБМ імя Ф.Скарыны. Былі разасланы лісты ў гарадскія і раённыя выканаўчыя камітэты, у рэдакцыі раённых газет, прыхільнікам роднага слова ў ВНУ краіны. Рэспубліканская Рада ТБМ звярнулася да настаўнікаў і грамадскасці праз друк, просячы ў іх падтрымкі. І вось на працягу жніўня-верасня ў дзесятках гарадоў і раёнаў узнікаюць рэгіянальныя арганізацыі ТБМ з правамі юрыдычнай асобы, якія і зараз паспяхова дзейнічаюць. На сённяшні дзень іх налічваецца больш за сто па ўсёй Беларусі. Адны з іх рэгіянальныя, іншыя — калектыўныя сябрыны. Такім чынам, узнікла разгалінаваная сетка нашага Таварыства.

**— Якраз тады пачаў рыхтавацца Закон аб мовах...**

— Так. Час арганізацыйнага станаўлення ТБМ супаў з такой важнай акцыяй, як апытанне грамадскай думкі і абмеркаванне праз сродкі масавай інфармацыі праекта Закона аб мовах. Гэтаму садзейнічалі грамадскія арганізацыі, якія стаялі на ніве нацыянальнага адраджэння, некаторыя прадстаўнікі дзяржаўных структур, той жа самы Бураўкін. Давялося пайсці на такія крокі, як правядзенне публічных акцый у падтрымку дзяржаўнасці беларускай мовы. Адзін ці не з першых мітынгаў ТБМ адбыўся ў скверы Янкі Купалы. Грамадскасць ініцыіравала дзесяткі пісьмовых водгукаў у падтрымку дзяржаўнага статуса беларускай мовы ад грамадзян рэспублікі, ад працоўных калектываў. Ідэю дзяржаўнага статуса беларускай мовы, можна сказаць, падтрымала Беларусь. Нават былі сходы вайскоўцаў, на якіх быў, дарэчы, закладзены і падмурак Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Такім чынам, калі на трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета (пачатак 1990 г.), на якой быў прыняты Закон аб мовах, зайшла гаворка аб тым, колькі ж людзей гэты закон падтрымалі водгукамі, то выявілася: іх было дзесяткі тысяч. Супраць выказалася ўсяго некалькі соцень людзей. Запамяталася, як адзін з дэпутатаў, сп. Кенік, які цяпер кіруе Дзяржаўным камітэтам па справах Чарнобыля і з'яўляецца намеснікам Старшыні Савета Міністраў, дык нават арганізаваў на Гомельшчыне мітынг у падтрымку дзяржаўнага статуса рускай мовы. На сесіі таксама звышінтэрнацыяналісты не драмалі.

Прыняцце Закона аб мовах праходзіла драматычна. Яго непрыхільнікі ў час, калі ён быў ужо зацверджаны на сесіі, але яшчэ не была прынята пастанова аб увядзенні ў дзеянне, зноў пайшлі ў наступ. Склалася такая сітуацыя, калі давялося Гілевічу, Сачанку, Бураўкіну і іншым выступаць у абарону амаль ужо прынятага закона.

**— Памятаецца, не засталося Таварыства ўбаку і ў час кампаніі па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты.**

— Сапраўды, здарылася так, што зімою таго ж года пачалася кампанія па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі цяперашняга склікання. ТБМ актыўна ўключылася ў гэты працэс, бо паводле Канстытуцыі яно мела права вылучаць на сваіх сходах кандыдатаў у дэпутаты. Было прапанавана каля дваццаці кандыдатаў, і ўсе яны сталі потым вядомыя на Беларусі. Дарэчы, Зянон Пазьняк таксама быў вылучаны ад ТБМ. Па лініі нашага Таварыства ў абласныя Саветы ўвайшлі такія актыўныя дзеячы беларускага адраджэння, як сп. Мельнік (г.Ліда), Алесь Белакоз (Гародзенскі абласны Савет), шэраг дэпутатаў у Полацку, Маладзечне, Менску. Дарэчы, цяперашні першы намеснік мэра беларускай сталіцы сп. Герасіменкі Анатоль Гурыновіч таксама стаў дэпутатам па лініі ТБМ. Хачу дадаць, што тую перадвыбарчую кампанію ўдалося правесці вельмі дакладна, грунтоўна і без парушэнняў закона.

**— Такім чынам, сябры ТБМ імя Ф.Скарыны сталі дзяржаўнымі мужамі, вядомымі палітыкамі. Вось і Вы абраны сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета.**

— Палітыка адыграла сваю ролю, калі нам, прадстаўнікам Таварыства, патрэбна было ствараць прававы калідор, паглыбляць яго і пашыраць дзеля развіцця беларускай мовы і культуры ў краіне. На пачатку быў прыняты, як Вы памятаеце, вельмі важны Закон аб адукацыі. Ён быў распрацаваны Камісіяй па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую ўзначальвае Н. Гілевіч, пры актыўным удзеле дэпутатаў ад апазіцыі, пры падтрымцы навучальных калектываў, іншых структур. Напрыклад, там ёсць артыкулы, якія забяспечваюць стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі Беларусі. Затым быў прыняты Закон аб культуры, які гарантаваў развіццё і адраджэнне нацыянальнай культуры. Камісіяй былі таксама падрыхтаваны і прыняты на сесіі Закон аб захаванні гістарычнай спадчыны, Закон аб Дзяржаўным Гербе, Сцягу, Закон аб назве рэспублікі. Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь была прынята ў 1990 г. і набыла статус канстытуцыйнай сілы ў 1991 г. пасля вядомых падзей, у выніку якіх развалiўся СССР. Дык вось у гэтай дэкларацыі (9 артыкул) упершыню ў гісторыі нашай краіны было замацавана стварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, культуры і інфармацыі. А што такое нацыянальная сістэма адукацыі? Гэта нацыянальная школа ўсіх тыпаў — ад дзіцячых садкоў да ВНУ. Урэшце ў новай Канстытуцыі Беларусі, якая ўступіла ў сілу 15 красавіка, быў замацаваны статус беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай. Усім нам памятны той драматычны момант, калі ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета прымаўся гэта артыкул.

**— Ну, а калі канцэптуальна, які ў нас, беларусаў, у гэтым рэчышчы набытак?**

— Надзвычай важна, што мы нарэшце маем пачатковую нацыянальную школу. Упершыню, відаць, пасля спроб стварыць яе ў дваццатыя гады. Па ўсёй рэспубліцы адкрываюцца сотні класаў на беларускай мове ў сотнях школ. Такім чынам праз некалькі год мы будзем мець і нацыянальную сярэднюю школу, а не толькі пачатковую. Ужо цяпер колькасць першых беларускіх класаў прыкладна адпавядае долі беларускага этнасу ў рэспубліцы. Нам удалося ў гэтыя гады, калі ўсебаковы крызіс набывае абвальны характар, адкрыць у рэспубліцы шэсць новых нацыянальных тэатраў, дзесяць нацыянальных музеяў.

**— Гэты поступ адраджэння ў пэўным сэнсе заслуга і ТБМ...**

— Безумоўна так, тым больш, што шэраг кіраўнікоў Таварыства ўзначальвае і Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, а праз дзяржаўныя структуры іх спрыянне нацыянальнаму Адраджэнню з'яўляецца намнога больш эфектыўным. Адзначу, што ў галіне сродкаў масавай інфармацыі таксама назіраецца ўзлёт тыражоў беларускай перыёдыкі. А колькі новых выданняў з'явілася, толькі рэспубліканскіх: «Наша слова», «Культура», «Пачатковая школа», «Пралеска», «Беларуская мова», «Наша ніва» і многія іншыя. Да таго ж амаль перасталі беларусы выпісваць расійскія выданні — «Известия», «Правду», «Литературную газету», «Комсомольскую правду» і інш., — людзі больш чытаюць беларускую прэсу.

У гэтым жа рэчышчы адроджана нацыянальная гістарычная сімволіка — яна стала дзяржаўнай. Пачалі шанавацца беларускія помнікі культуры, нацыянальная спадчына. Раней, напрыклад, Ефрасіння Полацкая лічылася цемрашалкай, а цяпер у Вярхоўным Савеце абмяркоўваецца пытанне, каб дзяржаўнай узнагародай Рэспублікі Беларусь стаў Крыж Ефрасінні Полацкай.

**— Скажыце колькі слоў пра рэгіянальныя асяродкі культуры і што робіцца сябрамі ТБМ для іх падтрымання.**

— Рэгіянальныя асяродкі культуры — гэта бібліятэкі, кінатэатры, музеі, дамы культуры, клубы, самадзейныя творчыя суполкі. Калі б не эканамічныя цяжкасці, удалося б шмат больш для развіцця культуры зрабіць, але ўсё ж падмурак закладзены.

**— А якія важкія грамадскія акцыі правяло ТБМ у сваім асяродку і ў шырокім асяродку прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння?**

— Прайшлі тры з'езды Таварыства беларускай мовы, якія атрымалі добрую пагалоску ў грамадскім жыцці краіны. Перад кожным з'ездам і пасля яго ў дзесятках перыядычных выданняў у добрым сэнсе ініцыіравалася шмат публікацый. Рашэнні з'езда друкаваліся ў масавых газетах, а не толькі ў «Нашым слове». Дарэчы, «Наша слова» ўдалося запусціць на арбіту 1 сакавіка 1990 г. Да канца года яно выдавалася на грамадскай аснове і іншым фарматам. Газета стала прывабнай, набыла сталага чытача. Кола чытачоў няўхільна пашыраецца, нягледзячы на тое, што з'явілася шмат новых цікавых беларускіх выданняў.

Акрамя трох з'ездаў, Таварыства беларускай мовы правяло пяць рэспубліканскіх канферэнцый з удзелам іншых грамадскіх арганізацый і дзяржаўных структур. Першая адбылася ў траўні 1990 г. і была прысвечана праблемам адраджэння нацыянальнай школы. Тады ж была закладзена пэўная ідэалогія нацыянальнага адраджэння ў галіне беларускай школы. Было прапанавана стварыць канцэпцыю нацыянальнай школы Беларусі, якая зараз распрацоўваецца і адначасна ўвасабляецца ў жыццё. У канцы 1991 г. была праведзена канферэнцыя пад назвай «Інтэлігенцыя і нацыянальнае адраджэнне Беларусі», на якой было пастаўлена пытанне рубам: «З кім Вы, інтэлігенты?». У 1992 г. прайшла канферэнцыя «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Беларусі» з удзелам практычна ўсіх рэспубліканскіх арганізацый, якія спрыяюць нацыянальнаму адраджэнню, — ад Саюза пісьменнікаў да дзяржаўных структур. Наступныя дзве канферэнцыі адбыліся па пытаннях удасканалення правапісу беларускай літаратурнай мовы (восень мінулага года) і па праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі (4 — 5 траўня гг.). На ўзроўні Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў створана Дзяржаўная камісія па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы, якую ўзначаліў Гілевіч і якая зараз распрацоўвае канчатковы праект моўнай рэформы. Як вядома, камісія завяршыла першы этап работы і вынесла на разгляд грамадскасці свае прапановы. Выніковы дакумент друкаваўся ў «Нашым слове».

Удалося стварыць яшчэ дзве дзяржаўныя структуры: Тапанімічную камісію пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета, якую ўзначаліў актыўны прыхільнік ТБМ прафесар Леанід Лыч, і рабочую групу Камісіі Вярхоўнага Савета, якая займаецца праблемамі беларусізацыі вышэйшых навучальных установаў (некалькі грунтоўных дакументаў ужо надрукавана ў «Настаўніцкай газеце» і іншых выданнях). У склад рабочай групы ўваходзіць актыў ТБМ, узначальвае яе старшыня гарадской рады Таварыства прафесар М. Савіцкі. Я таксама ўваходжу ў склад гэтай групы — каардыную яе работу ад нашай парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Яго намеснікам стаў вядомы культурны і палітычны дзеяч Юрый Хадыка.

Таварыства праводзіць значную работу і ў выданні сваіх друкаваных органаў у рэгіёнах Беларусі.

### ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

**1989 г., 27 чэрвеня.**

*У Менску адбыўся ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*

*На з'ездзе былі зацверджаны Статут Таварыства, абраны яго кіруючыя органы — Рэспубліканская рада ТБМ (27 чалавек), Сакратарыят Рады (13 чалавек, старшыня Н.Гілевіч, намеснікі А.Падлужны, П.Садоўскі, Я.Цумараў) і Рэвізійная камісія (9 чалавек, старшыня М.Кійка).*

*Былі створаны камісіі ТБМ: арганізацыйна-прапагандысцкая (узначаліў Я.Цумараў), адукацыйная (П.Садоўскі), тэрміналагічная (У.Арлоў), па ўдасканаленню правапісу (Г.Цыхун), па культуры мовы (А.Клышка), па моўных скарбах (Я.Саламевіч), па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя (М.Купава), па сувязях з суайчыннікамі за межамі рэспублікі (Б.Сачанка), па тапаніміцы (Л.Лыч), выдавецкая (Зм.Санько).*

*З'езд звярнуўся з хадайніцтвам да Вярхоўнага Савета БССР аб неадкладным наданні беларускай мове ў рэспубліцы статуса дзяржаўнай.*

*Зборнік матэрыялаў з'езда (даклады і выступленні, пастанова, спіс дэлегатаў, склад кіруючых органаў і камісій ТБМ) у 1992 г. выпушчаны ў свет выдавецтвам «Навука і тэхніка».*

*З'езд прыняў «Зварот да грамадзян Беларускай ССР, да беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі, да ўсіх прыхільнікаў беларускага слова», дзе, у прыватнасці, адзначалася: «Дарагія сябры! Уступайце ў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны! Усюды стварайце яго суполкі — у гарадах і вёсках, на заводах і фабрыках, ва ўстановах і арганізацыях, у школах і вучылішчах, тэхнікумах і ВНУ! Растлумачвайце ўсім мэты і задачы Таварыства... Няхай жыве і квітнее беларуская мова!»*

### ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Адразу пасля з'езда паўсюдна ў рэспубліцы разгарнулася работа па стварэнню суполак і мясцовых арганізацый ТБМ. Ужо 29 сакавіка 1990 г. у Сакратарыяце Таварыства былі зарэгістраваны: па Брэсцкай вобласці — 6 раённых і гарадскіх рад ТБМ, па Віцебскай — 7, па Гомельскай — 4, па Гродзенскай — 8, па Магілёўскай — 5, па Менскай — 11, у г.Менску — 11. Сябрамі ТБМ імя Ф.Скарыны сталі 13 народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР.*

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



# УСЕ СВЯДОМЫЯ БЕЛАРУСЫ

Свае выданні мелі або маюць Маладзечанская рада ТБМ, Баранавіцкая, Лідская, Навагрудская, Салігорская, Пастаўская. Многія суполкі Таварыства друкуюць старонкі ў мясцовых раённых газетах, выкарыстоўваюць з мэтай прапаганды беларускага слова радыё і тэлебачанне.

Прадстаўнікі ТБМ прымаюць удзел у жнівеньскіх педагагічных нарадах, канферэнцыях, «круглых сталах», іншых мерапрыемствах, якія праходзяць у розных гарадах рэспублікі. Так, 1 чэрвеня прайшоў чарговы «круглы стол» у Менскім тэхнічным універсітэце, якім кіруе сябра Рэспубліканскай Рады Таварыства сп. Жарскі.

**— Якое пытанне на гэты раз разглядалася?**

— Пытанне нацыянальнага адраджэння ў сістэме ВНУ. Да трэціх угодкаў Закона аб мовах Таварыства арганізавала «круглы стол» з запісам для тэлебачання. Падобнае мерапрыемства было праведзена і ў прэс-зале Сsavміна з запрашэннем большасці міністраў, што маюць дачыненне да роднага слова. Прадстаўнікі рэспубліканскага таварыства час ад часу выязджаюць на нарады рэктараў ВНУ і на педагагічныя семінары, якія праводзяцца пад эгідай Міністэрства адукацыі. Гэта звычайная практыка ў цяперашняй працы на дзяржаўным узроўні.

**— Яўген Аляксандравіч, раскажыце пра ўдзел ТБМ у агульнанацыянальных выбарах.**

Жыццё паказала, што ўдзел нацыянальна свядомай грамадскасці Беларусі ў выбарах з'яўляецца важным фактарам нацыянальнага Адраджэння. Удзел у выбарах прэзідэнта і новага парламента, органаў мясцовага кіравання важны не толькі як грамадзянская акцыя, але і як этап замацавання тых здабыткаў нашай маладой дэмакратыі і нашага адраджэння, якія мы маем на сённяшні дзень. Таму што праз органы ўлады будзе фарміравацца грамадская думка і стаўленне да законаў. Беларусь — дзяржава, якая, на жаль, не мае сталых традыцый павагі да закона. Прыняць законы, стварыць прававы калідор, гэта адно, а забяспечыць выкананне законаў —справа ўжо больш цяжкая... Калі будзе моцны пласт нацыянальна свядомых людзей ва ўсіх органах дзяржаўнай улады і кіравання, то гэта забяспечыць паскарэнне працэсу нацыянальнага адраджэння і развіцця беларускай мовы. У гэтым рэчышчы нагадаю, што на Рэспубліканскай Радзе ТБМ, якая прайшла гэтай вясною, быў прыняты і апублікаваны ў «Нашым слове» і іншых перыядычных выданнях «Зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь», у якім былі выказаны станоўчыя адносіны да замацавання ў Канстытуцыі дзяржаўнага статуса беларускай мовы. Было адзначана, што краіна знаходзіцца напярэдадні выбараў прэзідэнта і фактычнай змены ўлады і ў такіх умовах грамадзяне Беларусі не павінны праяўляць індэферэнтнасць да палітычнага жыцця, падтрымаць тых кандыдатаў на пасаду прэзідэнта і ва ўсе выбарныя органы ўлады, якія на справе падтрымліваюць нацыянальнае адраджэнне і на справе яму спрыяюць.

**— Значыць, трэба ўзмацніць прапаганду ідэй данага Звароту ТБМ і ў «Нашым слове»?**

— Безумоўна. Час для гэтага яшчэ ёсць. А да раней сказанага дадам наступнае: нядаўна Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў пастанову, якая рыхтавалася нашай парламенцкай камісіяй і ідэя якой была ўхвалена на III з'ездзе ТБМ. Камісія прадугледжвала стварэнне дзяржаўнай структуры, якая б кантралявала выкананне Закона аб мовах і якая павінна была мець назву: «Дзяржаўны камітэт пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь аб ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі». Разам з тым было прапанавана стварыць міжведамасную камісію, якая б ажыццяўляла нагляд за выкананнем закона. На жаль, гэта ідэя ў пастанове Прэзідыума Вярхоўнага Савета не была поўнасцю ўлічана. Народныя дэпутаты Кулічкоў, Савіцкі, Булахаў зрабілі ўсё, каб заблакіраваць пастанову, тым не менш гэта ідэя ўсё ж марудна, але ажыццяўляецца.

**— Што канкрэтна прадугледжвае пастанова?**

— Будзе створана міжведамасная рада са складу Акадэміі навук і двух міністэрстваў: адукацыі, культуры і друку, якая пры ўдзеле Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны будзе займацца кантролем, каардынацыяй і правядзеннем мерапрыемстваў па ажыццяўленні Закона аб мовах. Гэта надзвычай важна. Менскі гарвыканкам прыслухаўся да нашай думкі і зацвердзіў у сваім складзе новую штатную адзінку — інспектара па ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі. Такім чынам, створана перспектыўная мадэль для іншых гарадоў.

**— Раскажыце, калі ласка, пра выдавецкую дзейнасць ТБМ.**

— Таварыства выдала 19 кніжак. Да шырокага чытача прыйшлі ўпершыню «Геаграфія Беларусі» Аркадзя Смоліча, «Заходнерусізм» Аляксандра Цвікевіча, «Нарысы па гісторыі беларускага мастацтва» Міколы Шчакаціхіна, «Беларусь учора і сяння» Язэпа Найдзюка, «Расійска-крыўскі слоўнік» Вацлава Ластоўскага, «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак» Янкі Станкевіча, некаторыя тэрміналагічныя слоўнікі, «Пачаткі роднае мовы» Валянціны Раманцэвіч і інш. У серыі «Наш вечны зніч» выйшлі кнігі публіцыстыкі Ніла Гілевіча і Леаніда Лыча.

**— Як Вы, Яўген Аляксандравіч, мяркуеце сумяшчаць свае функцыі аднаго з кіраўнікоў ТБМ і аднаго з лідэраў БСДГ?**

— Усё пакажуць далейшыя падзеі — не будзем загадваць наперад. Але тая ж самая Грамада бярэ пачатак ад 1902 г. У яе ўваходзілі вядомыя дзеячы нацыянальнага адраджэння, тыя ж А.Цвікевіч і А.Смоліч былі яе арганізатарамі. Такім чынам, Грамада працягвае асветніцкую працу, якую пачало ТБМ імя Ф.Скарыны. І гэта натуральна. У БСДГ уваходзіць шмат дзеячаў навукі і культуры, якія адначасна працуюць і ў Таварыстве. Таму лічу, што, працуючы ў абедзвюх арганізацыях, я не раздвойваюся, а, наадварот, крочу ў адным напрамку.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

### ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

**1990 г., 29 студзеня.**

*Чатырнаццатая сесія Вярхоўнага Савета прыняла закон «Аб мовах у Беларускай ССР», у другім артыкуле якога гаворыцца: «дзяржаўнай мовай... з'яўляецца беларуская мова». Закон таксама прадугледжвае, што беларуская мова з'яўляецца афіцыйнай мовай органаў дзяржаўнай улады і кіравання, справаводства і дакументацыі, мовай выхавання і адукацыі, мовай тапонімаў і іншых назваў.*

*Закон выпушчаны ў свет масавым накладам адразу пасля яго прыняцця менскім выдавецтвам «Беларусь».*



**Мікалай ЛАВІЦКІ, старшыня Рады ТБМ Заводскага раёна Менска, старшыня рэвізійнай камісіі ТБМ.**

— За пяць гадоў, якія мінулі з часу заснавання нашай арганізацыі, змяніўся сам воблік ТБМ. Тыя суполкі і калектыўныя сябрыны, якія калісьці ствараліся пад эгідай КПБ, адышлі ад дзейнасці. Але радуе тое, што на іхніх месцах цяпер утварыліся новыя суполкі і ў школах, і на прадпрыемствах. Тым не менш, грамадства яшчэ не павярнулася да беларускасці. Не стварылася самае галоўнае — беларускамоўнае асяроддзе! Цяпер наша задача — спрыянне яго паўстанню. Дзеля гэтага Таварыства мусіць стаць арганізацыяй сапраўды народнай, з'яднаўшай людзей розных нацыянальнасцей. Бо тое, што мы называем Адраджэннем, — не кампанія, а працэс пераўтварэння грамадства. Каб прыспешыць яго, патрэбна супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі — грамадскімі, палітычнымі, прафсаюзнымі. І абавязкова — з дзяржаўнымі, бо сёння абарона мовы ёсць абарона й дзяржавы.

Што чакае Таварыства наперадзе? Мы мусім вызначыць мэты арганізацыі. Магчыма, спатрэбіцца перагледзець Статут, каб пазбавіць яго спадчыны часу партыйнага кіраўніцтва. Магчыма, спатрэбіцца больш дакладна вызначыць статус сябра Таварыства, каб стрымаць тых, хто займаецца нестатутнай дзейнасцю. Бо калі чалавек незалежна ад сваіх поглядаў, нават не валодаючы мовай, праяўляе хоць малую схільнасць да беларушчыны, ён можа быць сябрам ТБМ. Але калі афіцыйная асоба, сябра Таварыства, не толькі не валодае і не імкнецца авалодаць дзяржаўнай мовай, калі ягоная дзейнасць скіравана на страту краінай незалежнасці, дык ці адпавядае гэта прынцыпам сяброўства ў Таварыстве? Абараняючы мову і незалежнасць, мы абараняем сябе. Бо беларуская мова неадлучна ад беларускай дзяржаўнасці.

# *Памятаю, як пачыналі*

Ініцыятыўная група баранавіцкіх прыхільнікаў Таварыства беларускаў мовы ўзнікла ў ліпені 1989 года. У яе ўвайшлі людзі розных прафесій, узростаў і канфесій: П.Садоўскі, Д.Жук, Л.Антановіч, Л.Плыгаўка — настаўнікі, В.Жывула —вахавацельніца дзіцячага садка, А. Блінкоўскі, М.Блажэй —інжынеры-геолагі, М.Кадыка і В.Скок — інжынеры-эканамісты, П.Сахарэвіч і У.Шут — мастакі, М.Бусько, М.Бернат. 9 верасня, калі была афіцыйна зарэгістравана Баранавіцкае аддзяленне ТБМ імя Ф.Скарыны, у горадзе было ўжо 8 суполак, пераважна на заводах.

Адразу ж паўстала праблема з памяшканнем. Яна фактычна застаецца і да цяперашняга часу, бо ў маленечкім пакойчыку, дзе можа сесці не больш за 10—12 чалавек, нельга стварыць бібліятэку, захоўваць нейкі, хоць невялікі, тэбээмаўскі архіў ці ладзіць імпрэзы. Ганялі нас, як Марку па пекле: пару разоў мы праводзілі паседжанні нават у будынку гаркама партыі —гэта было тады, калі нас імкнуліся «прыручыць» ды радзілі з пазіцый трэцяга сакратара «как лучше организовать ваш ТБМ». Але вельмі хутка стала зразумелым, што гэтых дзівакоў, «каких-то там белорусов» не возьмеш у хамут, на тым прыязныя адносіны з «вышэйшымі інстанцыямі» скончыліся. Нейкі час паседжанні праводзілі ў будынку Дома культуры. Затым мы дамагліся права збірацца ў бібліятэцы раз на два тыдні. І ўсё «з боем», усё са спробай запалохаць нас. Збіраліся мы на паседжанні ўлетку ў парку, у скверы, было, што і восенню на дождж загадчык аддзела культуры выганяў з будынка: «нет разрешения занимать помещение!»

Найперш, мы дамагліся дазволу на адкрыццё школы для дарослых дзеля вывучэння беларускай мовы і азнаямлення з беларускай гісторыяй. Слухачоў быў поўны клас. Заняткі праводзіліся ў СШ N 11 кожны панядзелак увечары. Школа не платная, выкладанне — на энтузіязме: 40 мінут мовы, астатняе — гісторыя Беларусі, гісторыя беларускага адраджэння. Чыталі лекцыі Ліля Плыгаўка, Міхась Бернат, Дзмітрый Жук, Лідзія Антановіч, настаўнікі-беларусаведы СШ N 11, N 7 і іншых. Школа працавала цэлы навучальны год. Адначасова сталі ладзіць экскурсіі, збіраць беларускія кнігі для беларускіх суполак за межамі Беларусі, вялі падпіску на беларускія газеты. Беларускую літаратуру высылалі ў Вільню, Эстонію, Латвію, Казахстан. Гэтым займалася пераважна Тамара Зверава, а таксама Янак Савіцкі. Міхась Бернат асабіста хадзіў на прадпрыемствы, чытаў там лекцыі, пераконваў дырэктараў, каб ахвяравалі грошы для ТБМ: сёе-тое перападала. Так мы змаглі купіць для ТБМ кнігі.

З радасцю пачалі ў Баранавічах калядаванне і валачобніцтва: хадзілі з казой на Каляды, хадзілі на Вялікдзень. Я складала сцэнарый на аснове фальклорных запісаў Федароўскага (V том), беларускіх календароў. Шмат даведалася ад сваёй 90-гадовай мамы, дадала і тое, што памятала з дзяцінства. Уражанне і ў нас, і ў людзей, да якіх заходзілі, незвычайнае. Мы не чакалі, што людзям там моцна патрэбны, жаданы гэты звычай калядавання і валачобніцтва, а людзі не чакалі таго, што ёсць яшчэ нехта, нейкія маладыя і пажылыя, хто таксама, як і яны, любіць гэтыя абрады. Завадатарамі ж былі Тамара і Віктар Карлінскія, Іваноўскі.

На другі год, калі школа ўжо не працавала, мы ўзялі за правіла перад кожным паседжаннем рады чытаць кароткія лекцыі: пра Ефрасінню Полацкую, Францішка Скарыну, беларускіх ксяндзоў, Ларысу Геніюш, Язэпа Лёсіка, Міхала Забэйду-Суміцкага, Янку Купалу, Васіля Быкава, Яна Баршчэўскага, Уладзіміра Караткевіча, пра наш сцяг і герб «Пагоня».

Сябра рады Міхал Кадыка арганізоўваў лекцыі і сустрэчы з беларускімі навукоўцамі і грамадскімі дзеячамі. Для актывістаў ТБМ, для настаўнікаў, наогул для ўсіх жадаючых лекцыі чыталі А.Грыцкевіч, А.Сідарэвіч, П.Лойка, Г.Сагановіч, У.Емяльянчык, М.Чарняўскі, М.Ткачоў ды іншыя. Гэтыя самаахвярныя людзі прыязджалі электрычкай адразу на лекцыю, а позна ўвечары вярталіся ў Менск. Мы тады не мелі магчымасці ім аддзячыць, але заўсёды з удзячнасцю ўспамінаем гэтых шчырых людзей.

**Лідзія АНТАНОВІЧ,**
**сябра рады Баранавіцкага гарадскога аддзялення ТБМ.**

*Жыццё Таварыства*

# КОНКУРС ПРАЦЯГВАЕЦЦА

*30 сакавіка г.г. «Наша слова» змясціла ўмовы Рэспубліканскага конкурсу на лепшую арганізацыю, першасную суполку, калектыўную сябрыну Таварыства па выкананні статутных абавязкаў. У сувязі з тым, што ў вызначаны тэрмін (да 25 траўня) аператыўна падрыхтаваць і даслаць справаздачы аб сваёй дзейнасці паспелі толькі некаторыя нашы мясцовыя арганізацыі, вырашана падвесці вынікі згаданага конкурсу ў канцы бягучага года. Умовы застаюцца ранейшымі. Просім усіх актывістаў Таварыства з адказнасцю паставіцца да гэтай справы.*

*Выказваем падзяку наступным арганізацыям і суполкам Таварыства, якія ўжо даслалі інфармацыю на конкурс:*

*— Таварыству беларускай мовы імя Ф.Скарыны «Прамень» (г.Рыга, старшыня Алесь Карповіч);*

*— Сябрыне ТБМ Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта (г.Менск, старшыня дацэнт Леанід Цыганкоў);*

*— Суполцы Таварыства завода парашковай металургіі (г.Маладзечна, старшыня Н.Шунько);*

*— Нясвіжскай раённай радзе ТБМ (старшыня Міхась Валько);*

*— Салігорскай радзе ТБМ (старшыня Марыя Мацюкевіч);*

*— Суполцы ТБМ Беларускай політэхнічнай акадэміі (старшыня Анатоль Шастаковіч);*

*— Менскай радзе ТБМ (старшыня прафесар Мікола Савіцкі);*

*— Жлобінскай аб'яднанай раённа-гарадской радзе ТБМ (в.а. старшыні Мікалай Шуканаў).*

*Чакаем ад усіх арганізацый Таварыства актыўнага ўдзелу ў конкурсе!*

**М.В.**

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

**1990 г., сакавік.**

***Выйшаў з друку першы нумар бюлетэня ТБМ імя Ф.Скарыны «Наша слова» — выдання безганарарнага, штомесячнага. Наклад нумара складаў 6500 паасобнікаў. Старшынёй рэдакцыйнай калегіі бюлетэня быў Н.Гілевіч, сябрамі рэдкалегіі — Я.Брыль, У.Дамашэвіч, А.Камароўскі, А.Клышка, І.Лапцёнак, Г.Мацур, Зм.Санько, М.Супрановіч, А.Траяноўскі, Г.Тумаш, Я.Цумараў, Г.Цыхун.***

***

**1990 г., 11-12 траўня**

***У сталічным Доме літаратара праходзіла навукова-практычная канферэнцыя «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення», падрыхтаваная Рэспубліканскай Радай ТБМ сумесна з Міністэрствам народнай адукацыі БССР. Мэта канферэнцыі —садзейнічаць камісіі Саўміна ў распрацоўцы праграмы ажыццяўлення ў рэспубліцы Закона аб мовах.***

***Удзельнікі прынялі зварот да народных дэпутатаў БССР, які заканчваўся так: «Мы верым, што ў Вас хопіць дзяржаўнай мудрасці, каб зрабіць Беларусь суверэннай дзяржавай не толькі на паперы, але і фактычна, каб яна вызначалася... і сваёю дзяржаўнаю мовай».***

***

**1990 г., жнівень.**

***Выйшаў у свет шосты нумар бюлетэня ТБМ «Наша слова», амаль цалкам прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны.***

***Накладам 10 тысяч паасобнікаў выдадзены першы нумар часопіса «Унія». Выдавец — аднайменная маладзёжная суполка, зарэгістраваная як калектыўная сябрына ТБМ імя Ф.Скарыны.***

***Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую ўзначальваў Н.Гілевіч, звярнулася са зваротам да грамадзян рэспублікі аддаваць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы.***

***

**1990 г., верасень.**

***Бюлетэнь ТБМ імя Ф.Скарыны «Наша слова» для афармлення падпіскі ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР пад індэксам 74975.***

***

**1991 г., студзень.**

***Накладам 8 тыс. паасобнікаў выйшаў з друку першы (адзінаццаты) нумар «Нашага слова», які істотна адрозніваўся ад сваіх папярэднікаў. Матэрыялы пачалі падавацца сістэматызавана, з'явіліся старыя рубрыкі, некаторыя з іх існуюць і сёння («Рэха», «З лякарні спадара Алеся» — цяперашняя «Лякарня»). У праграмным звароце да чытачоў новага рэдактара Э.Ялугіна гаварылася: «У хуткім часе «Наша слова» пачне выходзіць часцей. З безганарарнага бюлетэня яно... пераўтвараецца ў паўнацэнны штотыднёвік са штатнымі літаратурнымі супрацоўнікамі».***



*Мікола САВІЦКІ, прафесар, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Ф.Скарыны*

# Чыя мова — таго зямля

Менская гарадская Рада ТБМ зарэгістравана гарсаветам 11 студзеня 1990 г. Яе склад — 80 сяброў, першы старшыня — прафесар гісторыі Анатоль Грыцкевіч, намеснікі: Л.Дайнека, І.Жарскі, Л.Лыч, І.Чарняўскі. Ад гарадской і раённых Рад былі вылучаны і абраны народнымі дэпутатамі Вярхоўнага Савета З.Пазьняк, Я.Цумараў, Ул.Новік, В.Галубовіч, А. Трусаў, П.Садоўскі, а таксама шэраг дэпутатаў гарадскога і раённых Саветаў.

Але актыўнасць сяброў першага складу Рады паступова падала. Новы склад Рады абраны 8 лютага 1992 г. (23 чалавекі, 2 намеснікі старшыні — Надзея Сармант, загадчыца ясляў-саду 456 і Яўген Лаўрэль, ст.навуковы супрацоўнік НДІ адукацыі). Калектыўнымі сябрынамі з'яўляюцца клуб «Спадчына» (старшыня А.Белы) і бацькоўскі камітэт вучняў беларускамоўных класаў (старшыня А.Шамак). Іх дзейнасць вызначаецца актыўнасцю і выніковасцю.

Разам з уладнымі структурамі рада імкнулася спрыяць таму, каб сталіца незалежнай Беларусі пачала жыць у беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Але кіраўнікі розных узроўняў не хочуць (ці не могуць) скіраваць свае сілы на выкананне патрабаванняў здаровага сэнсу — законаў аб мовах і аб адукацыі, Канстытуцыі. Зазначым, што яшчэ ў 1989 г. ГК КПБ прыняў рашэнне: «з 1991 года работнікам упраўлення народнай адукацыі і культуры Мінгарвыканкама перайсці на выкарыстанне беларускай мовы ў якасці рабочай». На жаль, і сёння ў гэтых установах, як і ў іншых, дзяржаўная мова не стала рабочай у поўным прафесійным сэнсе. Многае робіцца для бутафорыі, што зневажае годнасць і правы беларусаў. Часам бачым імітацыю па викананні Законаў і поўную адсутнасць канкрэтных спраў.

Добрым прыкладам плённай сумеснай працы з мясцовымі кіраўнікамі паказвае Заводскі раён. Там ёсць узаемаразуменне і практыка правядзення сумесных мерапрыемстваў. У Палацы МАЗа былі праведзены найбольш важкія мерапрыемствы: гарадская канферэнцыя пад дэвізам «Спыніць русіфікацыю!» з удзелам старшыні гарсавета і народных дэпутатаў усіх узроўняў, вечарына «Свята беларускага слова» і інш. Усё гэта адбылося дзякуючы прафесіяналізму і арганізацыйным здольнасцям намесніка старшыні прафкама МАЗа па культурна-арганізацыйнай рабоце Міколы Лавіцкага. На жаль, як стала вядома, культура раёна панесла важкія страты: на МАЗе гэтая важная адзінка скарочана. Разглядаем гэта як вялікую страту для

**— Радзім Гаўрылавіч, перш наперш хацелася б ведаць Вашу думку наконт тэрміналагічнай канферэнцыі, якая нядаўна адбылася ў Менску. Як Вы лічыце, удалася яна?**

— Беларуская мова знаходзіцца ў цэнтры інтэгральных працэсаў нацыянальнага Адраджэння, самасвядомасці народа Беларусі. Беларуская навуковая тэрміналогія — адзін з важнейшых накірункаў у гэтай справе. Таму правядзенне першай нацыянальнай канферэнцыі «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі» вельмі набалелае і актуальнае. Мне, як навукоўцу, тэма канферэнцыі вельмі блізкая і балючая. Я з вялікай прыемнасцю выступіў на ёй з прывітальным словам ад імя Акадэміі навук Беларусі. З аднаго боку, я вельмі быў задаволены і прыемна ўражаны шырынёй праблем, якія былі ўзняты на канферэнцыі, вялікай колькасцю дакладаў і рознамаітасцю напрамкаў разгледжаных пытанняў. Вельмі добра, што ўдзел у канферэнцыі прынялі навукоўцы самых розных галін навукі і спецыялісты-філолагі, бо толькі іх агульнымі намаганнямі можна на дастатковым узроўні вырашыць шматлікія праблемы навуковай тэрміналогіі. З другога боку, я быў засмучаны малой колькасцю ўдзельнікаў, якія рэдкімі кропкамі раскінуліся ў вялікім зале Дома настаўніка. Я спадзяваўся, што зала будзе поўная. Тут, можа, часткова вінавата і арганізацыйная падрыхтоўка.

**— Многім на Беларусі будзе цікава даведацца ад Вас саміх пра тое, як у Вашай сям'і захоўвалася беларускасць. Вы геолаг, здавалася б, павінны быць увогуле далекавата ад моўных пытанняў, але тым не менш траціце столькі сіл, столькі энергіі менавіта ў гэтым накірунку. Вы ўваходзіце ў кіраўніцтва Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, а таксама з'яўляецеся адным з актыўных кіраўнікоў згуртавання «Бацькаўшчына». Вось і канферэнцыя па тэрміналогіі адбылася дзякуючы Вашай актыўнай падтрымцы.**

— Я нарадзіўся ў Менску, але ўжо праз тры гады мяне вывезлі ў Расію, па якой я і бадзяўся сорак год, пакуль зноў вярнуўся на Бацькаўшчыну. Да беларускасці, да Беларусі я ішоў пастурова і досыць марудна. Маці і бацька, дзе б яны ні былі, заўсёды размаўлялі паміж сабой па-беларуску. Але бацька быў рэдка з намі: то турма, то вайна, то камандзіроўкі разлучалі нас. Дзядуля і бабуля (па маці маёй) хоць і беларусы з Беласточчыны, але гаварылі па-руску. А менавіта яны мяне ўзгадоўвалі, бо з імі я больш жыў.

Калі даводзілася бацьку жыць у хаце, я заўсёды што-небудзь чуў ад яго пра любую яму Малую Багацькаўку, пра Мсціслаўшчыну і Беларусь, аб якіх ён так нудзіўся і ўвесь час думаў. Калі бабуля ці маці рыхтавала бульбяную кашу са шкваркамі — камы або суп-крупеню, бацька з вялікім апетытам еў і падхвальваў: «Ай, як смачна, зусім як у Багацькаўцы!» Выпадала часам, на стале з'яўляўся вінаград — бацька яго не еў, казаў: «Не, я яго не люблю — ён у Багацькаўцы не расце». Бацька, калі быў у камандзіроўках (а гэта было вельмі часта), амаль кожны дзень пісаў маці лісты ці карталюшкі і, канешне, па-беларуску. Я іх заўсёды чытаў, і вельмі часта там зноў гучалі словы суму і нуды па Беларусі, па Багацькаўцы. А я здзіўляўся, што ж гэта за такая Багацькаўка? І думка аб ёй паступова западала ў душу, бацькавы размовы пра вёсачку гэтую шчамілі сэрца, і я адчуваў яе блізкасць і роднасць.

І толькі ў самым канцы вайны, калі мне, ужо школьніку апошніх класаў, давялося часцей жыць разам з бацькамі, я ўпершыню рызыкнуў трошкі размаўляць з імі па-беларуску, а, стаўшы студэнтам Маскоўскага нафтавага інстытута, — і пісаць лісты да бацькоў на беларускай мове. У Маскве стараўся не прапускаць Дэкады беларускай літаратуры і мастацтваў, гастролі беларускіх тэатраў, пачаў чытаць творы беларускіх пісьменнікаў.

У час «хрушчоўскай адлігі», калі бацька быў рэабілітаваны, ён пачаў думаць пра магчымы зварот на Беларусь. І вось у сярэдзіне 60-х гадоў мы ўтрох — бацька, мой старэйшы брат Усяслаў і я —зрабілі вандроўку па Беларусі: заехалі ў Малую Багацькаўку, у Магілёў да дзядзькі Парфіра, у Цімкавічы да сястры Кузьмы Чорнага, у Менск. Гэта было першае маё свядомае спатканне з Беларуссю, і Радзіма мая трохі прыадкрылася мне... Але жудасна балюча ўразіла адсутнасць мовы беларускай на вуліцах гарадоў. Калі мы з братам хадзілі па Магілёве, нешта распытвалі ў магазінах і гаманілі паміж сабой па-беларуску, дык чулі шэпт: «Во, видна, писатели приехали!» Я хоць і чуў пра дрэнны стан з беларускай мовай, але ніколі не чакаў, што наш народ даведзен да такога манкурцтва. І ўжо тады я даў сабе слова ўсімі магчымымі сродкамі змагацца за беларускасць.

Вярнуўшыся назаўсёды на сваю Радзіму, я яшчэ больш адчуў неабходнасць пашырэння беларушчыны, а ў апошнія гады —стварэння самастойнай еўрапейскай дзяржавы Беларусі на базе нацыянальнай ідэі і аб'яднання беларусаў усяго свету. І таму я з вялікім хваляваннем і гонарам пачуў, як Ніл Гілевіч назваў маю кандыдатуру ў сябры Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, а пазней, канешне, не мог не згадзіцца з прапановай Васіля Быкава замяніць яго на пасадзе прэзідэнта згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

**— Безумоўна, усіх беларусаў прыцягвае цікавасць да знакамітых братоў Гарэцкіх: Вашага шаноўнага бацькі і Вашага шаноўнага дзядзькі Максіма. Можа Вы раскажаце ўвогуле пра гісторыю сваёй сям'і.**

— Расказаць пра гісторыю сям'і Гарэцкіх у кароткім інтэрв'ю складана, ды можа і няма асобай патрэбы, бо на гэтую тэму даволі многа нядаўна пісалася ў нашым друку ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Праўда, да юбілею арыгінальных твораў пісьменніка, на жаль, не было выдадзена (апрача надрукаваных у «Полымі», 1993, N 2), хаця шэраг высокіх кіраўнікоў абяцалі гэта зрабіць. Мая стрыечная сястра — Галіна Максімаўна ў лісце да мяне напісала: «... і расказалі пра яго, і тое-сёе паказалі, а пакаштаваць яго творы, прачытаць іх, адчуць хараство яго мовы многім, хто мала ведае яго, не задалося».



Радзім ГАРЭЦКІ,

акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі

## ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

Браты Гарэцкія нарадзіліся ў вёсцы Малая Багацькаўка, што на Мсціслаўшчыне. Бацькі былі простыя непісьменныя сяляне. Пра радавод Максіма Гарэцкага я нядаўна надрукаваў артыкул у часопісе «Роднае слова» (N 2, 1994). Маці ведала бясконца многа беларускіх песень. Максім разам з кампазітарамі М.Аладавым і А.Ягоравым запісаў ад яе 318 песень і выдаў асобнай кніжкай «Народныя песні з мелодыямі» (Менск, 1928). Відаць, ад маці і пайшла ў Максіма схільнасць да прыгожага пісьменства. Жаданне вучыцца ў братоў было нястрымным. Ужо студэнтамі яны ўсім сэрцам успрынялі ідэю нацыянальнага Адраджэння, якой засталіся вернымі ўсё жыццё. Максім пісаў: «ахвярую сваім «Я» ва імя святога ўсім нам Адраджэння».

Старэйшы брат Максім 4 гады быў у арміі, удзельнічаў у імперыялістычнай вайне — у выніку з'явілася кніга «На імперыялістычнай вайне». Працаваў у першай Віленскай беларускай гімназіі, пасябраваў з Я.Купалам, братамі І. і А.Луцкевічамі, В.Ластоўскім і інш. У 1922 г. польскія ўлады арыштавалі М.Гарэцкага за пракамуністычную дзейнасць і пасадзілі ў адзіночную камеру ў Лукішках. У гэтым жа годзе малодшы брат Гаўрыла, які вучыўся ў Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве, таксама быў арыштаваны і трапіў на Лубянку, пра што я напісаў артыкул «Першы арышт» (ЛіМ, 1993, N 34, 35).

Лепшых усяго 5 гадоў была праца ў Горках і Менску (1924-1930), калі браты былі абраны правадзейнымі членамі Інбелкульта, пільна працавалі адзін у галіне літаратуры, літаратуразнаўства, мовазнаўства, фальклору, другі — эканомікі народнай гаспадаркі, дэмаграфіі. Столькі было сіл, энергіі, мар, надзей... Гаўрыла ў 28 год стаў самым маладым акадэмікам —адным з заснавальнікаў Акадэміі навук БССР, членам ЦВК Беларусі, дырэктарам Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Браты мелі прыгожых любых жонак, дзетак, часта ездзілі да бацькоў, якіх вельмі шанавалі і любілі.

Але ў ліпені 1930 г. абодва браты былі арыштаваны і трапілі ў «архіпелаг ГУЛАГ». Жонкі з сем'ямі пры першай жа магчымасці перабраліся да іх у ссылку. Увосень 1937 г. яны зноў былі арыштаваны. Толькі ў 1993 г. давялося даведацца пра дату і месца смерці Максіма — яго расстралялі ў Вязьме 10 лютага 1938 г., пра што я расказаў у артыкуле «Расстрэл Максіма Гарэцкага» (ЛіМ, 1992, N 41, 43). Гаўрыла яшчэ раз (ужо чацвёрты) быў арыштаваны ў 1938 г., з іх два разы яго прыгаворвалі да вышэйшай меры пакарання, але нейкае цуда выратавала яго.

Я вельмі добра памятаю Мядзведжую Гару ў Карэліі, дзе бацька працаваў на Беламорска-Балтыйскім канале. Маці, каб пракарміць сям'ю, працавала з самага ранння да 11-12 гадзін вечара. Мы з братам, амаль беспрытульныя шалапаі, былі мала паслухмяныя, бадзяліся цэлымі днямі і вечарамі, асабліва ў часы белых начэй, па розных мясцінах. Але калі маці нам казала, што сёння магчыма павядуць тату, мы амаль увесь дзень гулялі каля турмы і чакалі шэрую калону зэкаў, сярод якіх шыбкімі вачыма шукалі знаёмую постаць. Увечары радасна крычалі маці, што бачылі, і маці з палёгкай уздыхала: «Знача, яшчэ жывы». Аднойчы мы ўбачылі бацьку ў жудасным стане: ўвесь абросшы, рванае адзенне, з прывязанымі шпагатам бацінкамі, бо на апухшыя ногі яны не лезлі. Бацька неяк пера-

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



паспяховага адраджэння і развіцця беларускай культуры як на МАЗе, так і ў раёне і горадзе.

Бадай, галоўнай сваёй задачай мы лічым паступовы, прафесійны пераход ўсяго выхавання і навучання на беларускую мову. Пакуль вышэйшая школа не стане беларускай як па духу, так і па змесце, нельга чакаць і разлічваць на паспяховае адраджэнне беларускай культуры і яе стрыжня — нацыянальнай мовы. Сталічныя ВНУ павінны падаваць тут прыклад. А сёння толькі адзіны рэктар, акадэмік Ціханаў з Менскага педагагічнага універсітэта праявіў мужнасць і ўзяў на сябе асабістую адказнасць. Ён перавёў з мінулага года выкладанне ўсіх прадметаў на ўсіх першых курсах на беларускую мову.

Пытанне: дзе ж дзяржаўная пазіцыя Міністэрства адукацыі? Нагадаем рэальнасць: у гэтым годзе заканчваюць беларускія школы 14 тысяч вучняў. Яны выходзяць на вольны, родны свой прастор і будуць не прасіць, а патрабаваць свайго права на вышэйшую адукацыю на роднай беларускай мове. Шаноўныя дзяржаўныя кіраўнікі, рэктары ВНУ, не дапусцім сацыяльнага выбуху на аснове інтэлекту і духоўнага генацыду!

Гарадская рада ТБМ прыняла ў свой час адказнае рашэнне: прапанавала выключыць старшыню Урада В.Кебіча са складу сяброў ТБМ за тое, што апошні выконвае свае дзяржаўныя функцыі і канстытуцыйныя абавязкі не на дзяржаўнай мове. Ягоныя выказванні па тэлебачанні апошнім часам аб тым, што «русский и белорусский язык — это один язык», неаднаразовае высоўванне перад выбаршчыкамі пытання аб так званым дзяржаўным двухмоўі пасля увядзення ў дзеянне Канстытуцыі (17 артыкул) —пацвердзілі правільнасць нашых дзеянняў. Адраджаць і развіваць беларускую культуру пры такой афіцыйнай пазіцыі кіраўніка Урада вельмі цяжка. Але глыбокае перакананне ў тым, што родная мова абароніць, выратуе і дапаможа беларусам выжыць і захаваць сваю культуру, наша Рада імкнецца з верай і ўпэўненасцю ў поспеху Адраджэння беларускай культуры.

---

даўмаці просьбу пераслаць яму лязо, бо далей так жыць было немагчыма. І маці ў перадачы сунула з сарочкай лязо. Добра, што тата не скарыстаў яго...

Не раз прыйшлося бацьку перажыць здзек, крыўду і непавагу як «ворагу народа». Адчуваў гэта і я — «сын ворага», калі прымалі ў камсамол, калі паступаў на працу і г.д. Гэтае пачуццё прыніжанасці, каставасці ніколі не забыць.

Праз 40 год амаль 70-гадовым чалавекам бацька з вялікай радасцю зноў вярнуўся на Беларусь, дзе працаваў у якасці ўжо геолага і правёў свае самыя шчаслівыя апошнія 18 год свайго жыцця.

**— А Вашы вучнёўскія гады. Вы адразу вырашылі для сябе, што станеце геолагам? Вашы экспедыцыі па родным краі, відаць, пэўным чынам уплывалі на Вашу нацыянальную свядомасць, акрамя таго, што Вас, безумоўна, падтрымлівала сямейная традыцыя. Што больш за ўсё запомнілася Вам са сваіх прафесійных вандраванняў? Відаць, Вам як геолагу, нялёгка было пераходзіць на стацыянарны лад жыцця ў Акадэміі?**

— Бацька, стаўшы на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала геолагам, у далейшым працаваў на вышуканнях пад будаўніцтва розных гідраэлектрастанцый, вадасховішчаў, каналаў. Мы вельмі часта пераязджалі — я пакуль скончыў 10 класаў, змяніў, мусіць, школ трынаццаць. Я прызвычаіўся вандраваць, другі раз тата браў мяне з сабой на палявыя работы. Асабліва вялікае ўражанне на мяне зрабіла наша вандраванне на плытах па цудоўнай рацэ Чусавой на Урале. Я тады вучыўся ў 8 класе — з таго часу я цвёрда вырашыў быць геолагам.

Прыехаўшы на Беларусь, я таксама кожнае лета ездзіў на палявыя работы ў розныя мясціны. Апрача таго, ў адпачынак я разам з жонкай і дачкою бралі гумавыя чоўны і плылі па рэчках Беларусі —Бярэзіне, Нёмане, Дзвіне і інш. Гэта быў мой лепшы адпачынак, бо курорты і дамы адпачынку я не люблю і амаль у іх ніколі не быў. А з бацькам амаль кожную нядзелю улетку і восень мы ездзілі па грыбы — абодва заядлыя грыбнікі. Я пабачыў наш родны край: цудоўныя ўзвышшы, найпрыгажэйшыя даліны, блакітныя азёры, зялёныя лясы з мілагучным шэптам дрэў, шматкаляровыя лугі з гордымі постацямі буслоў... Я пазнаёміўся з вясковымі людзьмі, дабрыня і сардэчнасць якіх кранала да слёз. Нетры Беларусі па пабудове і карысных выкапнях аказаліся таксама найцікавейшымі і не такімі беднымі, як лічылася раней. Бацькаўшчына мая стала яшчэ мілей і даражэй.

На жаль, у апошнія гады спачатку па стану здароўя бацькоў, а зараз у сувязі з адсутнасцю фінансавання, я ды і многія супрацоўнікі Інстытута геалагічных навук не можам выехаць на палявыя работы. А без поля геолаг, як той Антэй, адарваўшыся ад Зямлі, гіне як спецыяліст. Падыходзіць вясна, лета і цягне ў поле, бо «душу намада даль заве...»

**— Як Вы, адзін з вядучых вучоных Акадэміі і ў той жа час яе кіраўнік, расцэньваеце яе цяперашняе становішча і якой яна бачыцца Вам у бліжэйшым будучым?**

— Як жартуюць, становішча сярэдняе — паміж дрэнным і вельмі дрэнным. Абвал амаль усіх напрамкаў народнай гаспадаркі, яе вытворчасці, эканомікі не можа адмоўна не адазвацца на развіцці навукі, культуры, адукацыі. Вось некаторыя лічбы. За апошнія гады навукаёмістасць нацыянальнага прыбытку ў Беларусі знізілася з 3,9 працэнта ў 1990 г. да 1,1 працэнта — ў 1992 годзе і да 0,89 працэнта ў бягучым. У Расіі ў 1992 г. гэта лічба была 1,9 працэнта, а ў ЗША — больш за 6 працэнтаў. Агульная колькасць супрацоўнікаў, занятых у сферы навукі, скарацілася на Беларусі амаль удвая (з 102 тыс. чалавек да 57 тыс. у 1992 г.). АН Беларусі за гэты час згубіла прыблізна 25 працэнтаў, у тым ліку каля 200 кандыдатаў навук. Бюджэтнае фінансаванне амаль цалкам ідзе на зарплату (каля 80 працэнтаў), на падаткі (а чамусьці павінны плаціць іх і за зямлю, маёмасць, дабаўленую вартасць, Чарнобыль і г.д. — «з адной кішэні ў другую») і ўтрыманне будынкаў, і то яго не хапае. На навуковы працэс нічога не застаецца. Прыходзіцца частку супрацоўнікаў трымаць на 0,5—0,7 стаўкі — гэта скрытае беспрацоўе. Узнікла небяспека зруйнавання інтэлектуальнага патэнцыялу краіны.

З адмоўных момантаў жыцця навукі трэба адзначыць наступнае: інфармацыйны вакуум (немагчымасць купіць часопісы і кнігі для бібліятэкі не толькі з далёкага, але і блізкага замежжа), цяжкасці паездак на канферэнцыі і сімпозіумы, вялікі кошт друкавання часопісаў і кніг (значна зменшылася выданне навуковых прац), сацыяльная абароненасць работнікаў навукі знізілася да мінімуму (а адсюль маральная прыгнечанасць), старэнне навуковых кадраў (моладзь не ідзе ў навуку, ды і грошай на іх няма) і інш.

Канешне, мы прымаем усе намаганні, каб палепшыць стан навукі. Пашыраем удзел нашых супрацоўнікаў у дзяржаўных заказах, Фондзе фундаментальных навук, многіх замежных навуковых фондах, займаемся гаспадарча-разліковымі працамі, камерцыйнай дзейнасцю і г.д. Зараз пашырыліся нашы сувязі з вучонымі далёкага замежжа, ідзе распрацоўка «Закона аб навуковай дзейнасці», прыярытэтных навуковых напрамках, шэраг мерапрыемстваў па паляпшэнні арганізацыйнай структуры акадэміі і інш. Я думаю, што ў бліжэйшы час абставіны павінны стабілізавацца, бо далей трымаць навуку ў такім стане немагчыма.

**— Не магу, Радзім Гаўрылавіч, не задаць Вам пытанне, звязанае з нашай газетай. Мы ганарымся, што Вы пагадзіліся быць, нягледзячы на Вашу вялікую занятасць і шматлікія грамадскія абавязкі, членам рэдкалегіі «Нашага слова». Вы падтрымліваеце нас ідэямі, і ў той жа час мы вельмі ўдзячныя Вам і за матэрыяльную падтрымку — ахвяравалі свой ганарар у фонд «Нашага слова». Нам вельмі цікава пачуць, як Вы ставіцеся да газеты як яе чытач і якія будуць Вашы пажаданні калектыву рэдакцыі?**

— Па-першае, я сам вельмі ганаруся тым, што мяне абралі ў рэдкалегію такой газеты, як «Наша слова», і гатовы дапамагаць ёй усім, чым змагу. Мне газета падабаецца, я яе выпісваю і рэгулярна чытаю. Я думаю, што мы недастаткова асвятляем дзейнасць нашых суполак, сярод якіх ёсць вельмі цікавыя. У многіх з іх трэба мець пастаянных карэспандэнтаў. Таксама хацелася б мець больш звестак аб жыцці беларусаў з блізкага і далёкага замежжа.

Распытвала
Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.

---

**ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА**

**1991 г., 12 лютага**

***Савет Міністраў БССР прыняў спецыяльную пастанову (N 56), накіраваную на пашырэнне дзейнасці ТБМ імя Ф.Скарыны. Пастанова абавязвала выканкамы, міністэрствы і ведамствы рэспублікі аказваць дапамогу Таварыству ў стварэнні на месцах сваіх новых арганізацый. ТБМ атрымала права мець уласныя прадпрыемствы, якія выпускаюць сувенірную прадукцыю і вырабы культурна-бытавога прызначэння, органам масавай інфармацыі Беларусі даручалася прапаганда дзейнасці Таварыства.***

***

**1991 г., сакавік.**

***З трэцяга (трынаццатага) нумара (6—12 сакавіка) «Наша слова» стала штотыднёвікам. На Ленінскім праспекце (цяпер праспект Ф.Скарыны) стаў працаваць кіёск ТБМ.***

***

**1991 г., красавік.**

***Сакратарыят ТБМ арганізаваў бясплатныя двухмесячныя курсы па інтэнсіўнаму авалодванню беларускай мовай.***

***Коштам ТБМ імя Ф.Скарыны выпушчаны «Расійска-Крыўскі (беларускі) слоўнік» В.Ластоўскага, які ўпершыню ўбачыў свет у 1924 г. Наклад перавыдання 10 тыс. паасобнікаў.***

***

**1991 г., травень.**

***У «Нашым слове» (N 12) апублікаваны зварот рэспубліканскай Рады ТБМ да народных дэпутатаў рэспублікі ўсіх узроўняў, да ўсіх грамадзян Беларускай ССР, да прыхільнікаў беларускага слова «Каб людзьмі звацца!» У дакуменце звернута ўвага, што аснова культуры нашага народа — нацыянальная мова —знаходзіцца ў небяспецы, бо артыкулы і палажэнні нядаўна прынятага Закона аб мовах чыноўніцтвам па-ранейшаму ігнаруюцца.***

***На канец траўня ў Сакратарыяце ТБМ імя Ф.Скарыны былі зарэгістраваны наступныя рэгіянальныя арганізацыі Таварыства: па Магілёўскай вобласці — 8 раённых і гарадскіх рад; па Менскай — 17, па Гомельскай — 6, па Гродзенскай — 11, па Брэсцкай — 7, па Віленскай — 12, у г.Менску — 9 раённых рад і 6 асобных арганізацый, што маюць правы раённых, а таксама 19 калектыўных сяброў.***

***

***1991 г., 14-15 чэрвеня.***

***У Менску адбыўся II з'езд Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Лейтматывам большасці выступленняў, што прагучалі з трыбуны, стала неабходнасць еднасці і паразумення ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны. Слова бралі звыш 40 чалавек, якія прадстаўлялі ўсе беларускія рэгіёны і суайчыннікаў за межамі рэспублікі. З'езд прыняў рэзалюцыю «Да пытання пра Саюзны дагавор», дзе выказваўся за трывалыя пазіцыі нашай дзяржаўнай мовы на тэрыторыі Беларусі, на неабходнасць паслядоўнага выканання тут прынятага Закона аб мовах. Старшынёй ТБМ зноў выбраны Н.Гілевіч.***

---

**ВУЧЫМСЯ**

*Іспыты*

*Аляксей РАГУЛЯ*

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

***(Развагі над праграмай па беларускай літаратуры для абітурыентаў)***

***Новая праграма па беларускай літаратуры для паступаючых у ВНУ, прынятая летась, выклікала шмат нараканняў і папрокаў ад абітурыентаў, іх бацькоў, настаўнікаў. Больш таго, яна атрымала рэзка адмоўную рэцэнзію ад Міністэрства адукацыі. Але на секцыйным пасяджэнні ўсё ж было рэкамендавана яе прыняць. Рэдакцыя папрасіла аўтара праграмы, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Менскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, прафесара Аляксея Уладзіміравіча Рагулю распавесці пра асаблівасці праграмы, пра прынцыпы, якія закладзены ў новую канцэпцыю вывучэння беларускай літаратуры.***

З СВАЙГО вопыту работы з настаўнікамі і вучнямі педагагічных класаў (ёсць такая спецыялізацыя ў некаторых школах Меншчыны), якімі апякуецца наш універсітэт, ведаю, што большасць іх сустрэла праграму ў штыкі. Аргумент — адзін: дайце спачатку падручнік. Яго няма, але ў часопісах і ў газетах, у тым ліку і ў «Нашым слове», апошнім часам шмат друкуецца патрэбных матэрыялаў. Але яны не выкарыстоўваюцца, што тлумачыць можна становішчам нашых настаўнікаў, ды не ў кожнай школе знойдзеш беларускія выданні.

Але некалькі заняткаў і, галоўнае, настрой іх на работу з новай праграмай, — вучні зразумелі, што будуць здаваць менавіта па гэтай праграме, — далі выдатныя вынікі. Практыка паказвае, што вучні, здольныя мысліць творча, лёгка спраўляюцца з новымі патрабаваннямі. Заданні, якія прапануюцца новай праграмай, даюць магчымасць імправізацыі. Нават так было: вучань адказвае, і варта яму падказаць, чуць павярнуць пытанне, змяніць нейкі ракурс, ён адразу ж падхопвае, на хаду імправізуе. Тыя выпускнікі педагагічных класаў, хто здаваў сумешчаны экзамен: адначасова за сярэднюю школу і ўступны ў наш універсітэт, паказалі выдатныя веды. У гэты ж час ішоў падобны экзамен у тых, каму неўзабаве выдадуць дыпломы, —абітурыенты былі на галаву вышэй за гэтых педагогаў.

Гэтая праграма мае на мэце кампенсаваць недахопы падручнікаў. Праграма — не толькі заданне, якое трэба выканаць, але праграма — яшчэ інтэрпрэтацыя, тлумачэнне. Новая праграма разлічана на разуменне таго зместу, які закладзены ў творах беларускай літаратуры і які да апошняга часу абыходзіла афіцыйная праграма ды тыя падручнікі і дапаможнікі, якімі карысталіся вучні. Што да метадычных дапаможнікаў, калі такія былі, — яны ўзятыя з чужога поля: іх схема пазычана з распрацовак расійскіх метадыстаў. Арыентаваліся пераважна на часопіс «Литература в школе». І такім чынам наша літаратура ўкладвалася ў гэты пракрустаў ложак, не зважаючы на тое, што ў нашай літаратуры іншыя функцыі, іншыя мэты, іншая эстэтыка і, наогул, уся вартасная арыентацыя.

З улікам такой сітуацыі і была падрыхтавана гэтая праграма. І я не маю аніякіх ілюзій да яе доўгай дзейнасці: пакуль не з'явяцца новыя падручнікі і адпаведныя праграмы.

У новай праграме — арыентацыя на навуковы падыход да літаратуры, структурна-функцыянальны падыход. Мы вывучаем пэўную структуру, характэрную для беларускай літаратуры, суадносім яе (прынамсі павінны суадносіць) са структурамі ў іншых літаратурах, падаем яе на агульным літаратурным фоне, але павінны вывучаць яе спецыфіку, скажам, жанравую. Напрыклад, ёсць жанр — споведзь. Мы ведаем дзве «споведзі»: Ларысы Геніюш і Сяргея Грахоўскага. Але жанр споведзі ёсць ва ўсіх еўрапейскіх літаратурах і мае шматвяковую гісторыю. Пачынаючы, скажам, напрыклад, з Аўрэлія Аўгусціна (Сьвятога Аўгусціна, V стагоддзе), можна назваць творы Русо, Талстога. Калі сапраўды дбаць пра вывучэнне літаратуры ў агульначалавечым кантэксце, то і трэба было б, каб у вучня сфармавалася ўяўленне пра гэты жанр. І калі кожны з літаратурных жанраў так прасачыць, то тады мы ўбачым сваю літаратуру ў новым святле, і ўжо ў новым святле паўстаюць «Тастомант» Уладзіміра Жылкі, «Маналог» Аркадзя Куляшова — паэтычная разнавіднасць гэтай споведзі, а таксама цыклы вершаў, якія можна назваць лірычнай паэмай «Споведзь». (І наогул, можна ўбачыць маналагічную структуру ў шмат якіх творах.)

І калі на гэтым фоне даваць твор, то будзе складвацца зусім іншае стаўленне да нашай літаратуры і культуры. Мы тады пераадолеем гэты наш абласніцкі сіндром, сіндром разумення беларускай культуры і літаратуры як нечага абласнога, якое можа быць, у лепшым выпадку, толькі дадаткам — своеасаблівым каларытам да нечага абстрактнага. Адным словам, гаворка павінна ісці пра культуру, якую Максім Багда-

*(Працяг на с. 6.)*

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013





*Зміцер САНЬКО, намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны, старшыня выдавецкай камісіі.*

— Выдавецкая дзейнасць Таварыства вынікае з яго статуса як асветніцкай арганізацыі. Але займаючыся кнігавыданнем, мы засяроджваем увагу не толькі на моўных праблемах. Абавязак ТБМ — выданне патрыятычнай літаратуры, бо нацыянальнае адраджэнне не можа адбыцца, калі мы будзем рабіць акцэнт толькі на праблемах мовы. Трэба абуджаць нацыянальную свядомасць. Дзеля таго мы вярнулі з нябыту кнігі Смоліча, Цвікевіча, Найдзюка...

Сёння дзейнасць Таварыства мае два напрамкі: асветніцкі і патрыятычны. Які з іх будзе пераважаць надалей, залежыць ад таго, у якім накірунку пойдзе развіццё нашага грамадства. У грамадстве, якое будзе шпарка імкнуцца да пабудовы сваёй нацыянальнай дзяржавы, нам можна будзе засяродзіцца выключна на праблемах мовы. Але пакуль цяжка прагназаваць будучыя прыярытэты. Таму выданне патрыятычнай і гістарычнай літаратуры па-ранейшаму застаецца актуальным: без носьбітаў нацыянальнай свядомасці немагчыма ўтварэнне нацыянальнай дзяржавы. Калі ж у нас не будзе праблем з абаронай беларускай дзяржавы, ТБМ можна будзе займацца выключна пытаннямі культуры мовы. Так робіцца і ў Францыі і ў суседняй Украіне.




***ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА***

# У ПІНСКУ ЗАЦІШАК СКОНЧЫЎСЯ

18 траўня бягучага года ў памяшканні педвучылішча адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Прыемна адзначыць, што ўдзельнікаў было больш, чым на мінулай. Удзел у канферэнцыі ўзялі і дэпутаты Пінскага дэпутацкага корпуса спадары Шатохін і Аўсеенка. На вялікі жаль, ніводзін школьны або тэхнікумаўскі настаўнік, ніводзін выхавальнік дзіцячага садка, не кажучы ўжо пра кіраўнікоў гэтых установаў, канферэнцыю «не почтили присутствием». Спасылацца на недахоп інфармацыі ці можна, бо аб'явы пра час і месца правядзення рабіліся і па радыё (двойчы), і ў «Пінскім весніку», і нават у тэлепраграме «Вараг». Не наведаў нас і новы пінскі «міністр адукацыі» сп.Канеўскі, але мы разумеем, што, прыняўшы новую пасаду, ён мае шмат клопатаў і розных спраў.

Просім прабачэння за вялікаваты ўступ і раскажам пра нашы справы. Пэўны час у рабоце Пінскай арганізацыі ТБМ назіраўся непрыемны зацішак, мусіць, ад заўчасных спадзяванняў, што дзяржава ўзяла справу адраджэння ў свае рукі, а таксама і ад таго, што частка нашых сяброў, нават тых, хто стаяў «ля вытокаў» стварэння філіі ТБМ у Пінску, адышла ад актыўнай дзейнасці ў ёй. Але з 1993 г., асабліва з другой яго паловы, работа арганізацыі прыкметна ажывілася. Сябры ТБМ з лекцыямі і гутаркамі выступалі ў тэхнікумах, школах, дзіцячых садках, на гарадской канферэнцыі метадыстаў і загадчыкаў дзіцячых садкоў, прымалі ўдзел у атэстацыі дырэктараў і завучаў агульнаадукацыйных школ, калі правяралася веданне гэтымі кіраўнікамі беларускай мовы.

Неаднаразова звярталіся да нас за дапамогай у перакладзе на дзяржаўную мову і гарадскія службы і ўстановы, і нават камерцыйныя структуры.

Сябры Рады далі гарвыканкаму свае прапановы па прынцыпах перанайменя вуліц горада і кандыдатуры для складу адпаведнай камісіі, але, на жаль, справа гэта не зрушылася з месца. Наша агітацыя спрыяла пашырэнню ў горадзе беларускамоўнага друку, напрыклад, такога цікавага і карыснага выдання, як штотыднёвік «Наша слова», на які, дарэчы, рэкамендуем зараз падпісацца ўсім, у каго растуць дзеці, і проста тым, каму неабыякавы лёс Беларусі. Мы, сябры ТБМ, самі нярэдка выступалі ў мясцовым друку і ўрэшце «паднялі» старонку ТБМ, якую мяркуем выпускаць рэгулярна (калі будзе на тое ласка рэдакцыі «Пінскага весніка»). Друкуемся мы і ў тым жа «Нашым слове».

На грамадскіх пачатках праводзіла наша арганізацыя на працягу студзеня—красавіка заняткі па беларускай мове ў Пінскім гараддзеле ўнутраных спраў, дзе ў адных супрацоўнікаў гэта выклікала шчырую прыхільнасць, а ў другіх... Гэта і не дзіўна: занадта доўга адвучалі нас ад звычкі людзьмі звацца.

Не цураецца наша арганізацыя і грамадскай дзейнасці, бо час зараз такі, што заставацца па-за палітыкай немагчыма. Мы бралі і бяром удзел у зборы подпісаў у абарону дзяржаўнасці беларускай мовы, дасылалі адпаведныя лісты і тэлеграмы і на адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і на сесіі яго. Выступалі ў падтрымку «Народнай газеты» і яе галоўнага рэдактара, удзельнічалі ў святкаванні дат, звязаных з гісторыяй Беларусі. Працай на гарадскіх могілках па вул. Спакойнай разам з прадстаўнікамі дэмакратычнага руху горада адзначылі сумную гадавіну Чарнобыля.

Сябар нашай арганізацыі А. Лінкевіч 22 — 23 красавіка пабываў у Менску на 1 з'ездзе беларускай моладзі свету.

Увогуле, прыемна адзначыць, што за апошні час рады ТБМ папоўніліся маладымі, свежымі, таленавітымі сіламі: А.Калеснік, А.Галавач, мужам і жонкай Асмалоўскімі, групай навучэнцаў педвучылішча. Мы рады будзем бачыць у ліку нашых сяброў усіх, хто не хоча «расліннага існавання», чыя душа прагне жывой, добрай справы на карысць беларускага адраджэння.

Крыху аб нашых фінансавых справах. Пасля доўгіх «блуканняў па пакутах» мы ўрэшце адкрылі рахунак у АКБ «Вестбанк» за N 100700221, на якім у нас пакуль 00 руб. і столькі ж капеек. Але нас абяцаў падтрымаць гарвыканкам, дапамаглі сваімі асабістымі сродкамі дэпутаты гарсавета ад апазіцыі, пінскія арганізацыі БСДГ і БНФ, дакладней, людзі, якія ў іх уваходзяць. І мы ціха спадзяёмся на цуд: а раптам дапамагчы нам фінансава захочуць і камерцыйныя структуры, і проста асобныя грамадзяне?!

Ну, і ўрэшце, якое ж жыццё без планаў на будучыню? Марым пра больш цесныя сувязі з гарадской прэсай, кантакты з Пінскім радыё і, не выключана, з тэлебачаннем, якія, на жаль, пакуль што цалкам рускамоўныя.

Мы разумеем, што нам патрэбны больш цесныя сувязі з арганізацыямі, установамі, прадпрыемствамі і вайсковымі часцямі, якія ёсць у горадзе. Яны і самі могуць звяртацца да нас па дапамогу. Месцімся мы пакуль што «ў прымах», але марым пра такое памяшканне, у якім можна было б не проста збірацца, а і адкрыць кнігарню з беларускай кнігай, бо ў гэтых адносінах існуючыя кнігарні не вытрымліваюць ніякай крытыкі.

Хочам пайсці ўсе разам у паход і адсвяткаваць 6—7 ліпеня цудоўнае свята Купалле, прыняць у ліпені—жніўні ўдзел у Берасцейскім фэсце.

Будзем дамагацца і больш сур'ёзнага стаўлення да выканання Закона аб мовах з боку гарадскіх уладаў, бо насцярожвае, напрыклад, прызначэнне на пасаду кіраўніка ўсёй гарадской адукацыі ўжо згаданага вышэй сп.Канеўскага, які дзяржаўнай мовай, здаецца, не валодае, а калі і валодае, то трымае гэта ад усіх у вялікай тайне.

Так што планаў нямала, і, як кажуць, дай Божа сілы і добрых сяброў, каб усё гэта выканаць.

**С.ДЗМІТРЫЕВА,**
**старшыня Пінскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

**ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА**

**1993 г., студзень.**
*Газета «Наша слова» (N 3, 20 студзеня) на дзвюх палосах змясціла падборку пісьмаў студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ ў абарону беларускай мовы, накіраваных на адрас Вярхоўнага Савета, пад агульнай назвай «Няма мовы, няма і нацыі».*

***

**1993 г., люты.**
*«Наша слова» (N 5, 3 лютага) пад рубрыкай «Гісторыя Айчыны — вайскоўцам» пачала друкаваць у скарочаным выглядзе раздзелы па гісторыі Беларусі з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў. Публікацыі прыцягнулі ўвагу не толькі воінаў узброеных сіл, але і школьнікаў, студэнтаў, усіх чытачоў газеты, хто цікавіцца праўдзівай мінуўшчынай Бацькаўшчыны.*

***

**1993 г., 26 — 27 сакавіка.**
*У сталічным Доме літаратара адбыўся II з'езд ТБМ імя Ф.Скарыны. Галоўнае пытанне — дзейнасць Таварыства па ажыццяўленні Закона аб мовах. Абраны Рэспубліканская Рада і Сакратарыят. Старшынёй ТБМ стаў Н.Гілевіч, яго намеснікамі —Я.Цумараў, С.Запрудскі і Зм.Санько.*

***

**1993 г., 28 чэрвеня.**
*Адбылася рабочая сустрэча прадстаўнікоў арганізацый —заснавальнікаў ТБМ, прысвечаная чацвёртым угодкам заснавання Таварыства.*

***

**1993 г., 8—10 ліпеня.**
*Адбыўся Першы з'езд беларусаў свету, у арганізацыі і рабоце якога прынялі актыўны ўдзел сябры ТБМ.*

***

**1993 г., 24 — 25 верасня.**
*У г. Брэсце адбылася Рэспубліканская навуковая канферэнцыя, арганізаваная ТБМ імя Ф.Скарыны і Міністэрствам адукацыі, прысвечаная беларускамоўнаму выкладанню навучальных дысцыплін у ВНУ.*

***

**1993 г., 7 кастрычніка.**
*У сталічным Доме літаратара праведзены «круглы стол» на тэму «Мова нацыі — мова дзяржавы», арганізаваны Рэспубліканскай Радай ТБМ і прысвечаны ходу выканання Закона аб мовах.*

***

**1994 г., сакавік.**
*11 сакавіка ў Доме літаратара адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прысвечанае праблемам арганізацыйна-прапагандысцкай дзейнасці Таварыства. Асобна разглядалася пытанне аб газеце «Наша слова», работа рэдакцыі якой адобрана. Рада прыняла зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь «Незалежнасць дзяржавы — гарантыя дабрабыту народа».*
*«Наша слова» (N 13, 30 сакавіка) надрукавала ўмовы Рэспубліканскага конкурсу на лепшую суполку, арганізацыю і калектыўную сяброўку Таварыства па выкананні статутных абавязкаў.*

***

**1994 г., красавік.**
*«Наша слова» (N 17, 27 красавіка) змясціла зварот Сакратарыята ТБМ і Рады Рэспубліканскага праўлення Таварыства «Кніга» да сваіх арганізацый і актывістаў дзейнічаць сумесна дзеля пашырэння ўжытку роднага слова ва ўсіх сферах жыцця.*

***

**1994 г., 4—6 траўня.**
*У Менску адбылася першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі», адным з арганізатараў якой з'яўляецца ТБМ імя Ф.Скарыны.*

© PDF: Kamunikat.org 2013
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013



## *І смех, і грэх*

***На 8 -й старонцы «Нашага слова» на працягу ўсяго існавання газеты ў рубрыцы «І смех, і грэх» друкаваліся (і будуць друкавацца) творы, якія выклікаюць у людзей здаровы смех, прымушаюць задумацца над сваім жыццём. Сёння, адзначаючы юбілей ТБМ імя Ф.Скарыны, мы прапануем нашым чытачам невялікае падарожжа ў вясёлае мінулае 8-й старонкі «Нашага слова», з якім у нашых чытачоў, верыцца, звязаны добрыя ўспаміны пра нашу газету.***

## Дыялогі на вясковай лаўцы

— Што гэта, Югася, у тваіх суседзяў сёння ўтварылася? Лямант паднялі на ўсё сяло!

— А то табе ў навіну! Жыццё пражылі, а ўсё, як сабакі, праз загародку грызуцца.

— Пабраліся бо не да толку: адзін з агнём, а другі з полымем.

***

Гляджу я на гэту брыгаду прэзідэнтаў і не надзіўлюся: як Гарбачова задзвінулі, дык так асанку змянілі, пагляд...

— Ну то дзіва! На сваім сметніку і певень гаспадар.

***

— Ці чулі вы, што Ігнатаў хлопец сваю матку ў дом прыстарэлых здаў, а хату прадае? Мая Ліда бачыла, як вывозіў бедную з родных вуглоў. Дык казала: старая слязьмі заліваецца, а ён адно талдычыць: «Там табе добра будзе. І накормяць, і напояць».

— Во злітаваўся, як рак над жабаю. Узяў дый вочы выдраў.

***

— Тэкля, не мінай! Ідзі во прысядзь, пагаворым.

— Добра табе сядзець, калі поўная хата памочнікаў. А мне ўсюды самой паспець трэба. На ўдовіным двары і сякерка не сячэ, і кабылка не гарэ.

***

— Мой Якуб казаў, што сёння ўночы Аленчын хлеўчык абчысцілі нейкія зладзюгі. Усіх курэй вывалаклі.

— Ай-яй-яй! Што робіцца! І я сваіх ніколі на замок не закрывала. Падапру каменьчыкам, каб які тхор не ўлез ці сабака, — і пэўная.

— Ну то рабі вывад! Бо потым канцоў не звойдзеш. На сённяшнім злодзеі шапка не загарыцца: не з таго боку вецер дзьме.

Учула Любоў ЛАМЕКА.

## АФАРЫЗМЫ

*Вітамір Тэафілавіч*

У тым, што адбываецца сёння, віны не мае ніхто. Усе маюць заслугі.

***

У апошняй фазе развіцця дасягнулі мы застою.

***

Каршуны прапаноўваюць дыялог галубам. Запрашаюцца і канарэйкі.

***

Многім сапраўды падабаецца цвёрдая рука. Але свая.

***

Хто сказаў, што мы ў стагнацыі? Нашыя праблемы ўсё растуць і растуць!

***

Пры галасаванні памылак быць не можа. У спісах найлепшыя.

***

Самавыбары далі жаданыя вынікі.

***

Мяне аб'явілі ідэальным грамадзянінам. Нават з выварату не маю асабовых знакаў.

Пераклаў Іван ЧАРОТА.

## ПАРОДЫІ

*Георгій ЮРЧАНКА*

**з бяроз лісцінкі**
**ападаюць долу**
**на ручку з сумам**
**глянуў дзеяслоў**

**ляцелі думкі**
**стоенаю цішай**
**ля самай сцежкі**
**вырас мухамор**

**сеў камар**
**на сонную бярозу**
**у смятане карпы**
**смаката**

**крутнула ўправа**
**пройдзеная сцежка**
**абдымкаў прагне**
**левая нага**

— Гэта што ты мне за яду падсунула?

— Бацьвіння зварыла, сёрбай во і маўчы... Табе, грузаватаму, толькі на карысць пойдзе.

## ШПІЛЬКІ

***

Баюся, каб маё варэнне не зайграла.

***

Шкурадзёр — гэта той, хто прыткнецца, паробіць як мокрае гарыць, і плаці яму. Рабіў не рабіў — плаці. А ў яго ж — калгасны конь, не свой. Узарэ соткі — плаці. І грошы возьме, і ад гарэлкі не адмовіцца.

*Алесь МАСАРЭНКА*

***

Пра баравікі:

— Пайду ў лес, ужо мароз сівенькі, а яны дуброўнікі, чыстыя, рослыя. Набяру поўны кош — і дахаты.

***

— І ён жа, твой муж, дужа восьвенны — як зайдзіцца, дык што яму ні кажы — не чуе, чупе сваё, як глушэц.

***

— У бальніцы бала... Мне ўсё пруць і пруць таблеткі — не ўпраўлюся іх глытаць. Ажно аглухла. І павалока стала засцілаць вочы — на святло гляджу, то ўсё чорна і вілакі нейкія, як рагазюлі, стаяць у вачах... Даліся мне тыя іх таблеткі.

## Лінгвістычныя жарты

*Сяргей ГРАХОЎСКІ*

***

Не мінчане мы, а мінчукі,
Нас пакуль не многа, толькі кучка,
І прыпала да мае шчакі
Ужо не мінчанка, а мінчучка.

***

Нас называлі некалі «сябры»
На сходах і ўзняўшы чаркі,
Цяпер чамусьці клічуць «спадары»,
Хоць і няма ніякай гаспадаркі.

***

Творца меў адно жаданне, —
Пегаса ўхапіць за повад.
Стаў пісаць апаваданне,
А сяк-так зляпіў аповяд.

### *Слоўцы, якія паслужаць*

*Павел МІСЬКО*

— Таркані каня ўперад і во туды, убок вярні. Узрэччам паедзем, там лёдзіста, гладка.

— А дадзержыць каня?

— Дзіва што выдзержаць! Такі траскун быў... Сані будуць толькі туркацца.

***

— Я хоць і прымак, але лепш за цябе, дзедзіца, жыву. І хоць я на адзін бок скібку маслам мажу, а ты на два, але ў гэтум дзеле і я мышэй лаўлю — будзь здароў!

***

— Шор нам цяпер ніхто не ставіць, не гняце ў патыліцу — сей гэта, сей тое. А раней! Божачка ты мой... Рыкамендацыя за рыкамендацыяй, ды ўсё на басах. Я ўвесь у вымовах быў, як у лішаях ці каросце.

***

— Эй, кукурузька! Яч ты яе, чэша, нават не азірнецца... Каралева палёў, ау-у! Як цябе завуць? Хм, мабыць, глухая...

Дзяўчына азіраецца на гарэзу:

— А на такую хоху, як ты, і глядзець млосна.

## ДУМКІ УСЛЫХ

Не рабіце нічога курам на смех. Даказана: куры пачуццём гумару не валодаюць!

І балбатун можа стаць карысным, калі да яго языка падключыць хаця б веялку.

Ён так гарэў на працы, што пракурор мусіў узяць на сябе функцыі пажарніка.

Абмежаваны чалавек больш за ўсё прэтэндуе на неабмежаваную ўвагу да сябе.

Думаў «услых» філолаг Пятрусь КАПЧЫК.

*Увага, конкурс!*

## На мове жэстаў (і дотыкаў)



Мова жэстаў чалавецтвам распрацоўвалася тысячагоддзямі і цяпер здольная выказаць нават без слоў многія складаныя пачуцці. А ў спалучэнні са словамі ды адпаведнымі амаль рытуальнымі дотыкамі гэты сродак зносін і паразумення паміж людзьмі ўвогуле цаны не мае. Праўда, жэсты і рытуальныя дотыкі ў аднаго народа могуць не супадаць, і тады іншым разам узнікаюць па меншай меры кур'ёзныя сітуацыі.

Прапануем шаноўным чытачам адпаведны фотаздымак. Паспрабуйце здагадацца: 1). Што мог сказаць рабе Божай святар высокага рангу Рускай (Маскоўскай) праваслаўнай царквы ў сітуацыі, адлюстраванай на фотаздымку? 2). Знаўцаў просім адказаць, калі падобнае магчыма згодна з царкоўным рытуалам?

Лепшыя адказы будуць апублікаваны.

Фота В.Р.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 880.

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыі газеты «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі».
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7742 паасобнікаі
Падпісана ў друк 20.06.1994 г.
у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2013 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013